Народная Воля
http://www.nv-online.info
9 ЛЮТАГА 2021 г.

ПОСТАЦЬ



# Палескі волат

8 лютага споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Івана Мележа. Самым знакамітым яго творам стаў раман "Людзі на балоце" – пра калектывізацыю на беларускім Палессі. На яго старонках настолькі яскрава і запамінальна паказаны характары беларусаў-палешукоў, што сама назва стала крылатай – "людзьмі на балоце" неяк ахвотна сталі мы ўсе, і нават пазнейшая меліярацыя не адмяніла гэтай самахарактарыстыкі. Ніякім чынам не прыніжальнай! Думаецца, Іван Мележ невыпадкова назваў так свой самы ўдалы раман (перабраўшы з дзясятак варыянтаў). Балота – гэта цэлы патаемны свет, там ніколі – ні ў летнюю спёку, ні ў зімовыя маразы – не замірае жыццё. З балотам і яго насельнікамі звязана безліч беларускіх казак, паданняў, песень.

Дарэчы, любімай песняй Мележа была менавіта "балотная" "Каля грэблі шумяць вербы…". Калі ў 1971 годзе адзначалася 50-годдзе пісьменніка (у Купалаўскім тэатры, у прысутнасці тагачаснага кіраўніцтва Беларусі), з роднай мележаўскай вёскі Глінішча прыехаў народны хор – з тымі вербамі ля грэблі. І славуты пісьменнік, які прайшоў франты Вялікай Айчыннай вайны, слухаючы землякоў, не змог стрываць слёз…

Аўтара "Палескай хронікі" любіў і цаніў Пятро Машэраў, які знаходзіў час чытаць беларускую літаратуру. Аднойчы народны лідар запрасіў народнага пісьменніка ў свой верталёт і, абляцеўшы гомельскае Палессе, загадаў прызямліцца проста пасярод разгубленага Глінішча – каб зрабіць прыемнае творцу. Сам Іван Паўлавіч пазней вельмі любіў расказваць пра той свой прылёт на радзіму.

На жаль, сёння Івана Мележа чытаюць мала (як і многіх выдатных празаікаў). Але цікавасць да яго раманаў абавязкова вернецца. Бо ў іх – наша нацыянальнае жыццё-быццё, без прыхарошванняў і перакручванняў у дагоду камусьці.

Хтосьці з нашых суседзяў пусціў у свет зусім не бяскрыўдную показку-дражнілку: "А за Гомелем людзі ё? – Ё, толькі дробненькіё". Беларусы апошнім часам зняпраўдзілі не адзін міф пра сябе (рахманыя, паслухмяныя і г.д.). А міф пра палескіх пігмеяў – сваёй магутнай постаццю, сваёй грандыёзнай творчасцю – разбурыў (даўно і на векі вечныя) Іван Паўлавіч Мележ.

Палескі волат, які беларуса на балоце ўзвёў у пантэон сусветна вядомых літаратурных герояў.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# Почему ушел в отставку судья Верховного суда Руслан Анискевич?

*«Народная Воля» задала этот вопрос ему самому.*

Указ об освобождении Руслана Анискевича был подписан 15 октября минувшего года с формулировкой *«в связи с выходом в отставку»* согласно статье 109 Кодекса Республики Беларусь о судоустройстве и статусе судей. В этой статье написано, что *«судья имеет право на отставку в порядке и на условиях, определенных законодательством о государственной службе».*

Руслану Геннадьевичу 54 года. Он окончил юрфак БГУ. Юридическую деятельность начинал с должности помощника председателя суда Советского района Минска в 1995 году. Сразу после окончания юридического вуза начал судейскую карьеру. Судьей суда Советского района Минска проработал десять лет – с 1997-го по 2007 год.

С 2007-го по 2009 год был судьей Минского городского суда.

В 2009-м Анискевича назначили судьей Верховного суда. С марта 2014-го по апрель 2015 года был секретарем Пленума Верховного суда. С апреля 2015 года работал заместителем председателя Верховного суда и председателем судебной коллегии по уголовным делам Верховного суда. В этом же году ему присвоили высший квалификационный класс госслужащего.



*«Руслан Геннадьевич Анискевич пользуется заслуженным авторитетом у коллег и в профессиональной юридической среде»,* – отмечала пресс-служба Верховного суда после его назначения заместителем **Валентина Сукало**.

Руслан Анискевич вел немало громких судебных процессов. Например, так называемое «охотничье дело», где противостояли два силовых ведомства – МВД и КГБ, а одним из фигурантов был начальник главного управления по борьбе с коррупцией и экономическими преступлениями МВД **Виктор Ермаков**, дело бывшего следователя прокуратуры **Светланы Байковой**, дело бывшего заместителя главного редактора газеты «Згода» **Александра Сдвижкова**, обвиненного в разжигании религиозной вражды, а также многие другие.

В отличие от многих судей, которые крайне редко дают интервью, Анискевич периодически общался с журналистами, давал комментарии. Одним словом, его имя было на слуху. Возможно, Анискевич мог быть и среди кандидатов на должность председателя Верховного суда.

В пресс-службе Верховного суда не стали делиться подробностями, почему судья, чья карьера складывалась весьма удачно, вдруг решил уйти с работы. Мол, ушел и ушел, а дальше – личное.

«Народная Воля» разыскала Анискевича и прямо спросила о причинах отставки.

**– Руслан Геннадьевич, а почему вы ушли?**

– Ушел… Здоровье такое.

**– Других причин не было?**

– Никаких!

**– А сейчас вы где-то работаете?**

– Пока нет.

**– Может, преподаете? У вас же большой опыт...**

– Я пока думаю об этом.

**– Я к тому, что указ-то был подписан не вчера…**

– Да, указ подписан давно. Но я не работаю сейчас, занимаюсь детьми. И мне это нравится.

**– Со здоровьем ничего серьезного? Тьфу-тьфу-тьфу, не онкология?**

– Сейчас нормально всё более-менее.

Никаких вопросов, которые были бы связаны с тем, что происходит вокруг, и все пытаются к этому всё привязывать – у меня ничего такого нет.

**– У вас карьера хорошая была, поэтому естественно, что ваша внезапная отставка, скажем так, удивила…**

– Так сложилось, что пришлось выбирать…

**– Долго обдумывали уход?**

– Я сейчас не хочу вдаваться в подробности. Как есть, так и есть. А дальше уже начинается личная жизнь. Не хочу втягивать ни себя, ни окружающих в это всё. Уже всё состоялось.

**– Тогда здоровья вам, и чтобы всё получалось так, как хочется.**

– Спасибо! Посмотрим, если будет позволять, как говорится, физическое тело, значит, всё сложится и будем работать дальше.

**– Конечно, какие ваши годы! Работа судьи – не самая простая. Может, стрессов накопилось, и организм дал временный сбой.**

– Так сложилось, да. Всё будет хорошо.

**Марина КОКТЫШ.**

ПАМЯЦЬ

# Крыж Эдуарда Зарыцкага

Таленавітым, высакародным, дасціпным застаўся ў памяці кампазітар, народны артыст Беларусі Эдуард Зарыцкі, з якім добры лёс падараваў мне нямала сустрэч, творчых кантактаў, сумесных паездак. Зрэшты, з іх, шматлікіх, так бы мовіць, дзелавых вандровак, і пачыналіся нашы сяброўскія стасункі.

У 1986 годзе Эдуард, якога ў колах творчай інтэлігенцыі проста і сардэчна называлі Эдзікам, знайшоў мяне і прапанаваў разам з ім і Яраславам Еўдакімавым выступаць па лініі таварыства кнігалюбаў (была такая арганізацыя) з канцэртамі. Тады ён з сям'ёю жыў у Зялёным Лузе, недалёка ад мяне. Якая мне адводзілася роля ў нашай тройцы? Чытаць вершы. Якраз быў час гарбачоўскай перабудовы, як мне тады здавалася, *«пара выгнання з кабінетаў усіх дзялкоў і прайдзісветаў, пара высакароднай мэты і непадкупнага пяра»*. Я падзякаваў Зарыцкаму і даў згоду выступаць, разумеючы, вядома, сваю адказнасць запявалы: я павінен быў распачынаць канцэрты.

З Эдуардам было зручна і камфортна ў любой дарозе, у любым гатэлі і перад любой публікай. Паўсюль ён быў дужа надзейны – і за рулём свайго легкавіка (мы за два гады аб'ездзілі амаль усю Беларусь), і на сцэне перад перапоўненымі заламі. У палацах культуры збіралася па 500–700 чалавек. Людзі за маленькую плату (ухаход каштаваў адзін савецкі рубель) ахвотна ішлі развеяцца ад палітычнай неразбярыхі, хоць на нейкія імгненні адысці ад змрочных падзей – афганскай бойні, у якой калечыліся і гінулі нашы хлопцы, паслячарнобыльскай смуты, расстрэчанай трагедыі Курапатаў...

Праграма Зарыцкага ўсякі раз папярэднічала выступленню Еўдакімава. Ужо тады шырока вядомы кампазітар знаёміў слухачоў-гледачоў з залацінкамі сваёй творчасці, акампанаваў і напяваў (дарэчы, у яго быў добра пастаўлены голас) па куплеце і прыпеве з шэрагу песняў на вершы Ніла Гілевіча, Уладзіміра Някляева, Сяргея Грахоўскага, Уладзіміра Карызны ды іншых беларускіх паэтаў, распавядаў цікавыя гісторыі са свайго жыцця і шматграннай дзейнасці.

Я нярэдка бываў дома ў Эдуарда, адчуваўся ідэальнай атмасферай у яго сям'і, чуў ласкавы голас ягонай жонкі Тацццяны (і, калі б не ведаў, ніколі не падумаў бы, што яна пакутавала ад высокага артэрыяльнага ціску), бачыў, як захапляецца музыкай і спевамі дачушка Ліначка – тады яна паступіла ў музычную вучэльню.

Пазней, калі не стала Тацццяны, а Ліна выйшла замуж, Эдуард пераехаў у бацькоўскую кватэру (раён плошчы Перамогі). Тут ён дагледзеў свайго бацьку Барыса Артамонавіча, выдатнага майстра па рамонце гадзіннікаў. Гэта быў рослы, хударлявы, сімпатычны чалавек, які, як быў маладзейшы, любіў граць на трамбоне і скрыпцы. Дарэчы, у дзяцінстве недарэмна будучага кампазітара прымушалі граць на скрыпцы; пасля хлопчык прафесійна асвойваў баян і раяль.




Увогуле ўся сям'я Зарыцкіх не абыходзілася без музыкі. Мама Эдуарда, Ала Навумаўна, добра грала на фартэпіяна і спявала, працавала ў дзіцячым садку – праводзіла заняткі музыкі і співаў. Сястра Эдуарда, Яўгенія, выхавала ў сабе дзіцячага кампазітара. Яна пражывае ў Санкт-Пецярбургу. Добрым спецыялістам, займеўшы беларускую музычна-педагагічную адукацыю, стала Ліна, дачка Эдуарда і Тацццяны Зарыцкіх. Яна цяпер жыве ў Германіі (зямля Спаарланд). Там прадаўжальніца вядомай дынастыі музыкантаў працуе з харамі і салістамі, дае канцэрты. Ганарыцца бацькам. Аказваецца, ён пералажыў для фартэпіяна сусветныя хіты, перадаў дачцэ неацэнныя рукапісныя ноты.

А сваю музыку Эдуард ствараў натуральна, як дыхаў. Што да нашых творчых кантактаў, то яны пачаліся з 1998 года, калі ён зацікавіўся асобай Адама Міцкевіча. Папрасіў паказаць мае пераклады вершаў і санетаў нашага польскамоўнага генія. Я прынёс усё, што на той час меў. І неўзабаве Эдуард мяне знаёміў з мелодыямі ладнага цыкла песняў «Адкажы, родны Нёман». Гэты цыкл прагучаў у Вялікай зале філармоніі нашай сталіцы да двухсотгоддзя з дня нараджэння Міцкевіча. Зладзіў праграму Міхась Фінберг са сваім цудоўным калектывам музыкаў і артыстаў-спевакоў.

Пазней Эдуард Зарыцкі прыглядзеўся да маіх вершаў, у выніку ў нас з ім з'явіўся шэраг песняў: «Трэлі салаўя», «Імклівая рака», «Любімы мой» ды іншыя. Іх пранікнёна выконвае Галіна Грамовіч. Апошні сумесны твор мы здзейснілі ў 2017 годзе, юбілейным для слынных песняроў зямлі беларускай, народных паэтаў Бацькаўшчыны – Коласа і Купалы.

Эдуард выдатна адчуваў красу роднай мовы, быў дужа патрабавальны творца, дамагаўся ад паэтаў якасных вершаў, якія станавіліся ці маглі стаць песнямі.

У апошнія гады жыцця знакаміты кампазітар усё часцей звяртаўся да твораў нашых класікаў – Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна. Як правіла, у мяне браў зборнікі неабходных яму вершаў. Шчымліва-ўзрушальна гучыць песня «Будзьма» на словы Рыгора Барадуліна ў выкананні Якава Навуменкі. Яна ў нейкім сэнсе прарочая ў адносінах да лёсу ўсёй знакамітай тройцы. Не стала Навуменкі, пасля – Барадуліна. Няма ўжо з намі і Зарыцкага. А песня адбылася. Ёсць і будзе! Бо яна – з ліку неўміручых твораў, якіх у спадчыне Эдуарда Барысавіча багата.

Я нярэдка бываю ў Доме дружбы, куды нас з Эдуардам некалі ласкава ўвяла Ніна Сямёнаўна Іванова, дырэктар гэтай дружалюбнай установы: ён разам са мною шчыраваў у таварыстве «Беларусь–Украіна». Перад кожнай вечарынай, якіх тут ладзіцца нямала, гучыць лагодная тэматычная песня на словы Сяргея Панізніка, крылы якой даў ён жа, Эдуард Зарыцкі.

Сэрца знанага кампазітара адгукалася на самыя розныя праявы, падзеі, справы. У 2017 годзе мне пашанцавала узяць з ім удзел у двух турах «Залатой калекцыі беларускай песні», якой шмат гадоў запар займаецца «Сталічнае тэлебачанне» з нястомна ўлюбёнай у музычнае мастацтва Людмілай Палкоўнікавай. У жніўні мы пабывалі ў старажытным Полацку, а ў лістападзе – у Маладзечне. Гучалі нашы песні, і мы выходзілі на паклон. На такія паездкі ён не шкадаваў ні часу, ні сіл. І на дарогу ў два канцы ў яго ставала запасу добрых жартаў, анекдотаў, усмешак. Таленавіты, высакародны, дасціпны – так пра яго думаюць многія.

Цяпер мы ўсе, хто добра ведаў Эдуарда Зарыцкага, зразумелі ягоную мужнасць – сястрыцу вялікай любові да людзей. Як сказала мне спадарыня Ліна, анкалогія выявілася ў лютым. Але нават самым блізкім сябрам ён не казаў пра гэта. Нават М.Я.Фінбергу, з кім штодня перамаўляўся, сказаў пра біду ці не за тыдзень да сыходу... Дачка хацела прыехаць з замежжа, каб дапамагаць, ды ён забараніў: «Я толькі больш буду перажываць!» Ён перанёс дзве хіміятэрапіі, праз тыдзень, 14 чэрвеня 2018 года, збіраўся прайсці трэцюю. Але не вытрымала сэрца.

Успамінаецца такі факт: працяглы час даглядаў Эдуард нямоглага жончынага бацьку, які пасля доўга прабыў у коме. Нялёгкі гэты крыж панёс кампазітар мужна да канца. Яго высакароднасці і самаахвярнасці не было мяжы. Пэўна, найперш таму музыка Зарыцкага дапамагае людзям жыць.

**Васіль ЖУКОВІЧ, пісьменнік.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 5 ЛЮТАГА 2021 г.

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# По куму звонит колокол

Виталий ПОРТНИКОВ

Можно было бы сказать, что после решения украинского президента Владимира Зеленского о приостановке вещания пророссийских телевизионных каналов из «холдинга Виктора Медведчука» в Кремле должны испытать чувство острого разочарования, – но это не так. В Кремле разочаровались в Зеленском очень давно, еще во время саммита «нормандской четверки» в Париже, когда стало ясно, что недавно избранный президентом Украины, бывший телевизионный комик, не собирается капитулировать перед своим российским коллегой, а действительно хочет ему доказать, что жить в мире лучше, чем воевать, – какая чудовищная наивность!

И как к такой наивности должен был отнестись Владимир Путин? Он и отнесся: практически через несколько месяцев после этого саммита, когда стало ясно, что заманить Зеленского в ловушки с прямыми переговорами с российскими марионетками не получается, в Москве стали открыто говорить, что во время его президентства проблему Донбасса не решить. Так что сейчас это, конечно же, не разочарование. Это бешенство. Да как же он посмел обидеть нашего любимого Медведчука, почти что предмет кремлевского интерьера! Да кто же он такой!

А он – президент Украины. В Кремле могли бы подумать: почему практически ни с одним украинским президентом – за исключением разве что Виктора Януковича, да и того пришлось буквально запугивать и шантажировать – ни о чем договориться не удается? Почему каждый украинский президент начинает свое правление с намерения достичь взаимопонимания с Россией по тем или иным кардинально важным вопросам, а заканчивает уверенностью в том, что ни о чем договориться не получится?

Может быть, потому, что для Кремля украинский президент не президент, Украина – не государство, украинцы – не народ? И тогда действительно – зачем договариваться с лидером тех, кого ты за людей не считаешь? Естественно, ты будешь вытирать ноги о такого человека при каждом удобном случае: подкупать, запугивать, шантажировать. Естественно, ты будешь возмущаться, что они никак не поймут: «мы один народ», и если в Кремле сказали, что частью этого одного народа должен руководить Медведчук, – значит, Медведчук. Не могут смерды избирать себе кого хотят, притворяться отдельной страной, говорить на смешном языке. Не позволим!

И когда любой украинский президент, даже самый лояльный и доброжелательно настроенный, сталкивается с этим хамством дворовой шпаны, повершившей, что она выглядит не шпаной, а боярами и дворянами в напудренных париках, он очень быстро превращается в защитника интересов собственного государства. Потому что оказывается, что от этой защиты интересов собственного государства зависит его собственное выживание.

И пока в России этого не поймут, пока не уяснят, что Украина – другое государство, украинский – другой язык, а украинцы – другой народ, никакого взаимопонимания ни с кем никогда не будет.

Нужно просто перестать презирать.

ПАНДЕМИЯ

# Спасая других, погибли сами...

*В интернете появился список с именами белорусских медиков, погибших от коронавируса. Сейчас в нем 145 имен врачей, фельдшеров, медицинских сестер, санитаров. Deutsche Welle поговорила с их родными.*

Список медиков, погибших в Беларуси от коронавируса, на своей странице в Facebook опубликовала врач, доктор медицинских наук **Светлана Сорокина**. *«Первые случаи смерти медиков от COVID-19 были в апреле. После их количество стало расти, имена людей стали теряться и забываться. Я начала их по крупицам собирать: искала в публикациях СМИ и телеграм-каналах, кто-то писал мне личные сообщения, в комментариях под постом»*, – отмечает Сорокина. Практически идентичный список можно найти и в телеграм-канале белорусских врачей «Белые халаты».

Между тем Минздрав РБ статистику по смертности медиков от COVID-19 не предоставляет. Замминистра здравоохранения **Елена Богдан** еще в апреле заявила, что обнародование таких цифр якобы некорректно с точки зрения «принципов биоэтики». Всего в Беларуси, по официальным данным на 8 февраля, от коронавируса умерли 1792 человека.

## «Никто не сказал, в какую больницу его отвезли»



Одним из первых белорусских медиков, умерших от коронавируса, стал 50-летний **Василий Липилин** – фельдшер скорой медицинской помощи из города Борисова (Минская область). Он умер 8 апреля.

*«Вначале в городе никто о коронавирусе не говорил. Всё скрывалось и скрывается, чтобы не ухудшать статистику. Соответственно и средств индивидуальной защиты у медиков не было – на смену 12 часов выдавалась одна маска, противочумных костюмов не было вообще. Машины скорой помощи тоже не обрабатывались. Василий рассказывал, что после больных с температурой могли сразу везти беременную женщину»*, – говорит жена Липилина Наталья.

По ее словам, муж почувствовал себя плохо после очередной рабочей смены, начался озноб, появилась температура. *«Было указание, что медработники не могут уйти на больничный, как обычные люди. Если тебе плохо, ты должен вызвать «скорую», чтобы вызов был зарегистрирован, было записано, что, например, температура более 38. Только после этого можно просить больничный»*, – говорит Наталья.

В течение нескольких дней мужчине не становилось лучше, он вызвал «скорую», а на следующий день открыл больничный. При этом, отмечает Наталья, ему никто не предложил сдать тест на коронавирус или сделать рентген. В больницу Липилин попал 4 апреля, когда состояние было уже критическим. *«Я нигде не могла найти мужа, всё было настолько скрыто, никто не сказал, в какую больницу его отвезли. Тогда пациента могли отправить даже в соседний город, туда, где были места. Василий оказался в реанимации 2-й клинической больницы Борисова. Мне сказали, что шансов у него нет – легкие поражены практически полностью»*. У Липилина диагностировали двустороннюю пневмонию, первый тест на коронавирус дал отрицательный результат, второй – положительный.

## «В пульмонологии она была как на передовой»

*«Мама была гальваником на минском заводе «Интеграл», рано ушла на пенсию и после больше 25 лет проработала в 10-й городской клинической больнице Минска – сначала в приемном покое, потом санитаркой-буфетчицей в пульмонологии. Этой весной, когда началась первая волна коронавируса, пожилым работникам предлагали уволиться, но мама не смогла уйти, переживала, что некому будет работать. В пульмонологии она была как на передовой»*, – рассказывает дочь



72-летней **Натальи Яблонской** Галина. Медработник умерла 4 ноября.

Галина говорит, что столкнулась с разным отношением медиков к больным коронавирусом: *«Когда мама лежала в отделении пульмонологии, кислородную маску ей дали только после того, как мы с сестрой обратились к дежурному администратору. В реанимации же делали всё, что только можно, часто собирали консилиумы. Несмотря на это, 16 октября состояние ухудшилось, маму подключили к аппарату ИВЛ»*. Спасти Наталью Яблонскую не удалось. Дополнительные осложнения вызвал прием антибиотиков.

Галина, сама медработник, считает катастрофой, что всех больных COVID-19 лечат по одному шаблону, спущенному Министерством здравоохранения: *«Подход должен быть другой в лечении этих больных, не одна схема для всех. Все спущено свыше, врач не имеет права от нее отступить, потому что будет отвечать за это перед различными проверками. Кроме того, знаю много случаев, когда люди поступают в больницу, а им говорят: помочь ничем не можем, так как нет ни аппаратов ИВЛ, ни кислорода»*.

## «Во время пандемии работала в обычном режиме»



8 января умерла главврач Брестской городской детской поликлиники **Татьяна Авдейчук**. В марте ей исполнилось бы 60. *«Моя мама возглавляла поликлинику 18 лет. Во время пандемии работала в обычном режиме, ведь маленьким пациентам нужна помощь, а мама управляла таким большим учреждением в нашем городе, без нее никак»*, – рассказывает дочь врача Виктория.

По ее словам, болезнь у женщины протекала очень тяжело, тест на коронавирус сразу был положительный, КТ показало обширное поражение легких. *«Мама задыхалась, она совсем недолго была в обычной палате, затем ее перевели в реанимацию, где она оставалась до последних дней. Врачи говорили, что делают все возможное»*, – вспоминает Виктория. Девушка говорит, что с какого-то времени просто перестала следить за ситуацией с коронавирусом в Беларуси, но количество смертей от COVID -19 в ее окружении растет.

## «Мы до сих пор не знаем, что стало причиной скоропостижной смерти»



Также в списке медиков, умерших от коронавируса, имя врача клинико-диагностической лаборатории в Солигорске (Минская область) 47-летней **Светланы Понтус**. Между тем, по словам ее сына Александра, несмотря на то, что женщина умерла 1 декабря, анализы, подтверждающие либо опровергающие наличие коронавируса, еще не готовы, семье их должны прислать из Минска.

*«Все начиналось как боль в пояснице, потом она поднялась выше по спине, явных признаков коронавируса не было. Мама неделю была дома, потом ей стало совсем плохо. В больнице она провела всего несколько часов. На КТ поражение легких было меньше 10%, на тест на ковид тогда времени не было»*. По словам Александра, в больнице женщине дали кислородную маску, состояние было стабильное, потом стало хуже, и она попала в реанимацию: *«На самом деле мы до сих пор не знаем, что стало причиной ее скоропостижной смерти, был ли это коронавирус. Но, думаю, не будь пандемии и такой загруженности врачей и медоборудования, необходимого в таких случаях, ИВЛ, возможно, маму удалось бы спасти»*.

СЛЫШАЛИ?

# Умерла любимая женщина Владимира Высоцкого

Советская актриса Татьяна Иваненко скончалась в Москве в возрасте 79 лет. Она была возлюбленной актера, поэта и исполнителя Владимира Высоцкого.

В 2018 году у Иваненко отказали ноги. Актриса редко покидала квартиру, от общения с прессой всегда отказывалась.



Иваненко и Высоцкий начали встречаться в середине 1960-х годов. Отношения длились до середины 1970-х. Пара не жила вместе, но часто ездила на гастроли и в киноэкспедиции. Высоцкий посвятил любимой женщине как минимум две песни, одна из которых – «Песня о двух красивых автомобилях». В 1972 году у Иваненко родилась дочь, отцом которой предположительно был Высоцкий. Однако официально он этого не признавал.

**Лилия КАРАЕВА.**

СОВЕТ МЕДИКОВ

## Как продлить жизнь на 14 лет

Продолжительность жизни во многом зависит от образа жизни, который ведет человек. Ее можно продлить более чем на десять лет, если соблюсти некоторые условия, рассказала *NEWS.ru* главный гериатр Минздрава России **Ольга Ткачёва**.

Образ жизни дает 50% вклада в ее продление. Всё остальное – экология, генетика и так далее – намного менее значимо. Физическая активность, контроль веса, отказ от курения, контроль артериального давления суммарно дают плюс 10–14 лет жизни. *«Чем больше у вас компонентов здорового образа жизни, тем больше эффект, тем выше продолжительность жизни»*, – пояснила Ткачёва.

Бытует убеждение, что образ жизни бессмысленно менять после наступления какого-либо возрастного порога. По словам Ткачёвой, это не более чем заблуждение. Например, физическая активность помогает продлить жизнь даже в том случае, если человек начинает ею заниматься после 90 лет.

АВТОНОВОСТЬ

# Tesla впервые серьезно обновила Model S

*У нее штурвал вместо руля, самый быстрый в мире разгон и бортовой компьютер, на котором можно поиграть в Cyberpunk 2077.*

Автопроизводитель Tesla представил модернизированный автомобиль Model S. Это первая комплексная модернизация модели, выпускающейся с 2012 года.

Основные изменения касаются дизайна салона. Вместо руля у водителя появится штурвал с сенсорными кнопками, а вместо вертикального планшета в новых Tesla Model S появился 17-дюймовый горизонтальный экран с разрешением 2200 на 1300 пикселей и улучшенными яркостью и контрастностью. Еще один монитор диагональю 8 дюймов предназначен для пассажиров на заднем сиденье.

Мощность бортового компьютера (производительность его чипа составила 10 терафлопс) позволяет играть во многие современные видеоигры, включая, как подчеркнул основатель Tesla **Илон Маск**, Cyberpunk 2077.

Изменения во внешнем виде оказались незначительными – автомобиль получил новые бамперы и колесные диски, а также затемненную стеклянную крышу.

Стоимость Model S в базовой модификации (мощность – 679 лошадиных сил, разгон до 60 миль в час – за 3,1 секунды, дальность хода на полном заряде батареи – 663 километра) составляет 89.990 долларов.

Улучшенная модификация Plaid с тремя электромоторами (мощность – 1034 лошадиные силы, разгон до 60 миль в час – за 1,99 секунды, дальность хода 628 километров) будет стоить 119 тысяч. У модели самое быстрое ускорение среди всех когда-либо созданных серийных авто, утверждает компания. Максимальная скорость версии будет достигать почти 322 километров в час.

Также для предзаказа уже доступна модификация Plaid+, в которую будут устанавливать аккумуляторы большей емкости (они будут представлены ближе к концу года), благодаря чему она сможет проехать до 840 километров на одном заряде.

Аналогичному рестайлингу также подверглась Model X: в частности, как заявляет компания, она получит самое быстрое ускорение среди всех внедорожников – до 60 миль в час за 2,5 секунды.

**Григорий ЛЕВЧЕНКО.**



НЕ МАГУ МАЎЧАЦЬ!

## Сяргей ЗАКОННІКАЎ:

# «Без дэмантажу дыктатарскай сістэмы ў Беларусі не будзе ніякага адзінства»

*2021 год абвешчаны ў Беларусі Годам народнага адзінства. Здавалася б, пасля такога рашэння ўлады павінна зменшыць абароты і рэпрэсіўная машына, запушчаная пасля мінулагодніх прэзідэнцкіх выбараў. На жаль, гэтага не адбылося. Навошта і каму патрэбна чарговая нічым не падмацаваная дэкларацыя? Пра гэта ды іншыя надзённыя праблемы мы пагутарылі з вядомым паэтам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы Сяргеем ЗАКОННІКАВЫМ.*

**– Сяргей Іванавіч, пасля абвяшчэння Года адзінства Савет міністраў нават зацвердзіў адмысловую праграму, у якой пазначаны ажно 106 розных вялікіх і малых мерапрыемстваў . Як вы ставіцеся да такой ініцыятывы?**

– У нас абвяшчаецца то Год малой радзімы, то Год роднай мовы, то вось цяпер Год адзінства. Я гэта лічу непатрэбным і неэфектыўным. Чалавека трэба выхоўваць з маленства так, каб ён любіў сваіх бацькоў, родзічаў, народ, родную мову, гісторыю, малую і вялікую радзіму, быў патрыётам. А абвяшчаць гады – гэта проста чыноўніцкая мітусня. Правялі, паставілі ў плане птушачку, а далей і трава не расці. У Беларусі сёння топчуцца сумленнасць, праўдзівасць, нарастае тузанне паўсюль: ад эканомікі да культуры. Навошта было ў 1995-м расколваць моўным рэферэндумам народ, які быў знясілены русіфікацыяй, але пакрысе стаў ачуньваць? Навошта было адпрэчваць гістарычныя сімвалы і замяняць іх на “навадзелы”? Каб у 2021-м праводзіць Год адзінства?..

**– А што трэба зрабіць, каб у Беларусі сапраўды настала народнае адзінства?**

– У жнівеньскія дні 2020 года я разам з жонкай Ліляй удзельнічаў у чатырох маршах. Гледзячы на радасныя ўсмешкі соцень тысяч людзей, асабліва дзяўчат і жанчын, на прыгожыя сцягі, выявы Пагоні, мне падалося, што ў гэтыя хвіліны ў краіну вяртаецца душа нацыі, настае тое самае сапраўднае адзінства. Але неўзабаве светлыя дні былі заслонены “чорнымі людзьмі”. Без дэмантажу дыктатарскай сістэмы ў Беларусі не будзе ніякага адзінства.

**– Кожны дзень у краіне праходзяць суды, абвяшчаюцца жорсткія прысуды, адбываюцца ператрусы ў розных беларускіх асяродках, людзей выклікаюць на допыты. Відавочна, улада хоча запалохаць народ, каб збіць хвалю вясновых пратэстаў. Як вы лічыце, ёй гэта ўдаецца?**

– У гэтыя дні я разам з усімі жыву ў стане пастаяннага стрэсу. Кожны дзень прыносіць змрочныя весткі. Цынізм і нахабства дыктатара, лютасць сілавікоў зашкалілі. Такога ў гісторыі Беларусі яшчэ не было. Безумоўна, нельга пастаянна быць героем, зноў і зноў ісці пад дубінкі і кулі. Але пратэсты, нягледзячы на запалохванні, працягваюцца, беларусы не здаюцца і павінны перамагчы.



**– Калі? Вясной? Ці верыце вы, што, нягледзячы на ўсе рэпрэсіі, на вуліцы, як і мінулым летам, выйдуць сотні тысяч пратэстоўцаў?**

– Веру. Рэжым, акрамя крывавых злачынстваў, якія не забудуцца нават праз стагоддзі, зрабіў стратэгічную памылку – замахнуўся на годнасць беларусаў. Прыніжэнне чалавечай годнасці яму не даруецца ніколі. Беларусы вясной, я перакананы, абавязкова выйдуць, бо цвёрдыя духам.

**– Як, на вашу думку, уплывае сітуацыя ў Расіі на беларускі крызіс? Падобна, што расійскія сілавікі проста тупа пераймаюць досвед беларускіх у справе стрымлівання пратэстаў.**

– На жаль, Беларусь па-ранейшаму знаходзіцца ў зоне ўплыву Расіі, што ў прынцыпе абразліва для краіны, але гэта рэальнасць, з якой нельга не лічыцца. Лукашэнка і Пуцін намерыліся кіраваць да смерці – пры дапамозе сілавікоў. Ваенная дыктатура бывае і не генеральскай, як у пакутнай М’янме. Афіцыйна можна яе не аб’яўляць, усё ж жывём не ў Азіі, Афрыцы ці Паўднёвай Амерыцы. Але што ад гэтага мяняецца? Беларускія і расійскія сілавікі “варацца ў адным чыгуне”, абменьваюцца вопытам, праводзяць сумесныя вучэнні. Яны атрымалі зверху дазвол на гвалт, абяцанне беспакаранасці, а таму так разышліся. Тым не менш за злачынствы давядзецца адказваць усім – і кіраўнікам, і выканаўцам.

**– Нядаўна прайшлі 100-я ўгодкі Івана Шамякіна, які, мяркуючы па яго дзённіках, вельмі перажываў за тое, што пачало адбывацца ў Беларусі ў другой палове 1990-х. У справе абароны беларускай мовы, Саюза пісьменнікаў (тады адзінага) ён напісаў некалькі лістоў Лукашэнку. Ні на адзін адказу не атрымаў. Калі вы працавалі ў ЦК КПБ (вярхоўнай на той час уладзе), нешта падобнае магло мець месца?**

– Я добра ведаў Івана Пятровіча Шамякіна. Ведаю, што ён пісаў лісты Лукашэнку шчыра і з душэўным болем. Ён думаў, што яго пісьменніцкая папулярнасць сярод чытачоў, аўтарытэт у грамадстве дапамогуць вырашыць узніклыя праблемы. Крыўдай на няўвагу Лукашэнкі да яго Шамякін двойчы дзяліўся са мною. Пасля развалу СССР, развенчвання савецкіх міфаў палітычныя погляды ў нас былі розныя, але чалавечыя стасункі заставаліся прыязныя. У час маёй працы ў аддзеле культуры ЦК КПБ усё было іначай. Машэраў хадзіў па Мінску з адным ахоўнікам, а ў будынак, дзе знаходзіцца цяпер адміністрацыя Лукашэнкі, мог трапіць з прапускам любы грамадзянін. Тады не адказаць на ліст ці скаргу было проста немагчыма. Нават за пратэрміноўку з адказам строга спаганялі. А тут!.. Не адказаць народнаму пісьменніку, акадэміку, Герою Сацыялістычнай Працы, былому франтавіку – гэта проста бесчалавечна!

**– І гэта пры тым, што спачатку стаўленне Шамякіна да Лукашэнкі было цалкам станоўчае. Вось запіс у яго дзённіку за 12 жніўня 1994 года: “Выступленне прэзідэнта па ТБ мне спадабалася. Ва ўсялякім разе – метад размовы: шчырасць, адкрытасць, даверлівасць”.**

– Тым больш немагчыма зразумець такіх абыякавых адносін. Хачу тут сказаць колькі слоў і пра Шамякіна як кіраўніка пісьменніцкай арганізацыі. Ён клапаціўся пра маладых пісьменнікаў. Скажам, калі я на апошнім курсе БДУ пісаў дыпломную працу “Максім Багдановіч – крытык украінскай літаратуры”, то Іван Пятровіч паклікаў да сябе ў Саюз пісьменнікаў і сказаў: “На табе, Сяргей, пуцёўку ў Дом творчасці “Каралішчавічы”. Галодныя вы, студэнты. Едзь, там хоць катлеціну добрую з’ясі”.

**– Вы, напэўна, ведаеце гэтую гісторыю. Калі ў свой час, пры Машэраве, хацелі даць званне народнага пісьменніка аднаму творцу з сумнеўнай рэпутацыяй, то Пімен Панчанка пайшоў да старшыні Саюза пісьменнікаў Броўкі і сказаў: калі яму дадуць, я адмоўлюся ад звання, і ты таксама! Калі нядаўна Лукашэнка даў ордэн Скарыны матушцы Гаўрыіле, ніхто з нашых ардэнаносцаў і не пікнуў... Ці прыведзеная мною паралель не зусім дарэчная?**

– Відаць, усё ж не зусім дарэчная. Мой сусед па пад’ездзе Пімен Панчанка, з якім я меў гонар сябраваць, быў надзвычай таленавіты і да апошняй крывінкі нацыянальны паэт. А яшчэ вельмі праўдзівы і бескампрамісны чалавек. Яго “паход” да Броўкі ў згаданай вамі справе грунтаваўся на варунках сталінскіх гадоў. У часы сталінскага масавага тэрору ў спецслужбаўскую цёмную валтузню былі ўкручаны і пісьменнікі: асобныя даносілі, а лепшыя, смелыя і такія ж праўдзівыя, як Панчанка, былі расстраляны або сядзелі ў ГУЛАГу. Прыгадваючы той выпадак, хачу ўдакладніць, што Пімен Емяльянавіч выказаў тады сваё меркаванне не толькі ў Саюзе пісьменнікаў, але і кіраўніцтву рэспублікі. І прапанова, якую актыўна прабіваў адзін увішны, меркантыльны працаўнік ЦК, была адхілена. Што да вашага параўнання, то сённяшняя ўлада ўзнагароджвае не за заслугі, а за паслугі.

**– Сотні сумленных людзей, выдатных спецыялістаў у сваёй галіне, апынуліся без працы (згадайма лекара-акадэміка Мрочака). Вы ў свой час прайшлі праз вымушанае беспрацоўе. Што сёння можаце параіць тым, каго выкінулі з прафесіі?**

– Ніколі не апускаць рукі, шукаць выйсце. Калі мяне чарговым разам занеслі ў чорны спіс і ў 32 (!) месцах не ўзялі на працу, то я зарабляў на хлеб самымі рознымі спосабамі. Нешта пісаў, рэдагаваў, не цураўся чорнай працы, нават займаўся літаратурнай даводкай доктарскай дысертацыі па медыцыне. Такія спецыялісты, як Аляксандр Мрочак, – унікальныя, яны абавязкова будуць запатрабаваны. Сёння галоўнае, каб была прафесійная і чалавечая салідарнасць, каб людзі не баяліся яе выяўляць.

**– Беларускае грамадства абурыла абяцанне Генпракуратуры забараніць бел-чырвона-белы сцяг як экстрэмісцкі. Калі гэта адбудзецца, як адаб’ецца на пратэстным руху, і ці дыскрэдытуе неяк сцяг у вачах народа?**

– Можна забараніць усё, але толькі не само жыццё. Цяперашні афіцыйны сцяг з 1951 года мянялі шэсць разоў, апошні варыянт зроблены наспех, як кажуць, “на калене”. А герб афіцыйны з 1920 года перараблялі сем разоў. А бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня прайшлі праз стагоддзі, усё перажылі. І нікчэмных дачаснікаў-ненавіснікаў тым больш перажывуць!

**– Сярод 20 вашых кніг ёсць зборнік “Бяседа”, дзе ў вершы “Чалавек і мора” Максім Багдановіч, паміраючы ў Ялце, звяртаецца да мора: *“Ведаю, хутка згару, / хоць не паспеў уславіць / жыцця маланкавы міг... / Чуеш, мора? Жыве Беларусь!”*. Зборнік выдадзены ў 1973-м. Гэты лозунг тады не лічыўся экстрэмісцкім?**

– І заклік “Жыве Беларусь!” застанецца назаўсёды. У гады маёй маладосці існавалі суполкі, якія гэты лозунг выкарыстоўвалі. Здараліся факты праследу “за нацыяналізм”, але ніхто не лічыў экстрэмісцкім купалаўскія словы “Жыве Беларусь!”. Калі Лукашэнка і яго цэрберы супраць слоў Купалы, значыць, яны хочуць, каб Беларусь не жыла, а сканала. Урэшце дзеянні ўзурпатара і яго хаўруснікаў якраз і вядуць у той бок...

**– Праз некалькі дзён у Мінску адбудзецца гэтак званы ўсебеларускі народны сход. У вашым разуменні ён мае нейкую легітымнасць?**

– Гэта не народны сход, а наменклатурнае мерапрыемства, якое скіравана на ўтрыманне Лукашэнкам улады. Як і сам ён, яно, на маю думку, нелегітымнае.

**– І апошняе пытанне. Калісьці Уладзімір Караткевіч, які даваў вам рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў, узрушана выгукнуў: *“Хай лепей ніколі не будзе краіны, / чым будзе краіна без волі!”* Ці згодны вы з такой высновай класіка?**

– Трэба ведаць натуру Караткевіча, каб адэкватна рэагаваць на яго эмацыйныя выказванні. Ён быў максімалістам, рамантыкам, перажыў у душы лёсы ўсіх сваіх герояў, у тым ліку і Кастуся Каліноўскага... І сёння многія з нас у цяжкія хвіліны тузаюцца ў амплітудзе ад шчаслівай эйфарыі да змрочнага песімізму. Ніколі нельга давярацца крайнасцям, на поспехі і няўдачы варта рэагаваць стрымана. Адна з галоўных рысаў беларускага характару – цягавітасць. Да сітуацыі, у якой сёння знаходзяцца беларусы, лепш падыходзяць менш трагічныя, але разумныя і мужныя радкі Караткевіча: *“Калі мы не ўстанем самі, / Нас не падыме ніхто”*.

**Міхась СКОБЛА.**

СЛЫШАЛИ?

# Они не сказали «да»: Конституционный суд уклонился от оценки законности созыва Всебелорусского собрания

*Сообщение об этом опубликовано на сайте суда.*

Что в этом сообщении важно?

1. В суд поступили **многочисленные** обращения граждан.

2. В обращениях **выражается несогласие** с нормами Указа Президента Республики Беларусь от 28 декабря 2020 г. №492 «О созыве шестого Всебелорусского народного собрания», излагаются доводы о несоответствии этого Указа Конституции.

3. Разбираться с этими доводами Конституционный суд **не стал**, сославшись на то, что обращения граждан вправе не рассматривать. Гражданам, которые полагают, что их права, свободы и законные интересы нарушаются, порекомендовали обратиться к Александру Лукашенко, в Совмин, Национальное собрание и т.п. И если от этих институций поступит предложение о проверке конституционности созыва Всебелорусского собрания, то суд этим делом займется.



Напомним, что в истории Конституционного суда Беларуси все-таки были случаи, когда обращения граждан рассматривались по существу. Но это не были важные политические вопросы.

Еще одно важное обстоятельство: Конституционный суд со своей позицией «не видим, не слышим, не знаем» домолчался до того, что даже у лидера «Белой Руси» Геннадия Давыдько есть наказ избирателей (или предложение – как кому нравится) Конституционный суд упразднить вообще, а его функции передать Верховному суду. В ситуации, когда Конституционный суд стал приложением к правовому управлению Администрации президента, это разумное решение. Содержать штат высокооплачиваемых кивал – это в нынешних условиях слишком дорого.

ПРОШУ СЛОВА!

# 15 суток без средств гигиены – это не издевательство?

На должность заместителя министра здравоохранения – главного государственного санитарного врача Беларуси недавно назначен Александр Тарасенко. До настоящего времени он занимал должность главного государственного санитарного врача Гомельской области.

Насколько я понимаю, главный санитарный врач Республики Беларусь возглавляет всю вертикаль санитарно-эпидемиологической службы и несет персональную ответственность за выполнение возложенных на министерство задач и функций в области государственного санитарного надзора и противоэпидемических мероприятий. Правда, я где-то читал, что в учреждениях закрытого типа Министерства внутренних дел (тюрьмах, лагерях, следственных изоляторах) за соблюдением санитарно-эпидемических правил следят свои службы. На мой взгляд, они должны быть выведены из ведомственного подчинения и переданы Главной государственной санитарной службе Министерства здравоохранения. При такой иерархии не было б того, что сегодня беспокоит очень многих людей.

Представляете, в Минске и Жодино вдруг перестали принимать передачи для отбывающих наказание по административным нарушениям. Лукавые объяснения, что данные меры направлены против ковида, не выдерживают никакой критики. 15 суток без средств гигиены, зубной щетки, элементарного полотенца и средств гигиены для лиц женского пола, тех же масок и дезинфекции – это садизм и намеренное циничное издевательство над народом!

Как неравнодушный гражданин, я требую немедленно прекратить грубое нарушение прав людей и остановить антисанитарию в изоляторах временного содержания. И необходимо вывести их санитарную службу из ведомственного подчинения.

**Андрей ВИНОГРАДОВ, минчанин.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
9 ЛЮТАГА 2021 г.



# ВЯРТАННЕ

## Беларус з Байкала Алег Рудакоў праз 35 гадоў наноў абжываецца ў бацькоўскай хаце.

Былы вайсковец, гісторык, этнограф, адзін з найбольш вядомых дзеячаў беларускай дыяспары **Алег Рудакоў** вярнуўся на радзіму. Абжываецца ў бацькоўскай хаце, якую пакінуў 35 гадоў таму. Пра ягоную гісторыю наш рэпартаж з вёскі Бяздзедавічы на Полаччыне, паведамляе *Радыё Свабода*.

Гаспадар за звыклым зімовым заняткам – сячэ калуном тоўстыя альховыя круглякі. Каб у дзедавай хаце было цёпла, печы мусяць быць загружаны. Папоўніўшы дрывотню, узяў рыдлёўку і рушыў на гарод – прадэманстраваць, як даўней беларусы карысталіся прыроднай лядоўняй. Адкінуўшы снег і цырату, накапаў вядро свежай морквы.

### «Некалі ганялі ў поле чатыры статкі, а цяпер адна карова на ўсё наваколле»

У родныя Бяздзедавічы Алег Рудакоў прыехаў не адзін. На кухні завіхаецца маладая жонка. У канцы мінулага года ў Іркуцку пабраўся шлюбам з магістаркай псіхалогіі Воляй Галанавай – паплечніцай і партнёркай у справе беларушчыны, якой яны ахапілі ўсё Прыбайкалле. І яна, і яе бацькі нарадзіліся ў Сібіры, а вось прабабчына і прадзедава лініі бяруць пачатак на Віцебшчыне і Магілёўшчыне. Драматычную гісторыю яе сям'і *Радыё Свабода* расказвала.

У той час як беларусы масава з'язджаюць з прычыны няўпэўненасці ў будучыні, адваротная рэлакацыя, ды яшчэ з паляпшэннем дэмаграфічнай сітуацыі, здаецца не зусім своечасовай. Алег Рудакоў з гэтым не згодны.

*«Першае і самае галоўнае: я марыў вярнуцца з таго самага моманту, як адсюль з'ехаў. Калі жыў у Цюмені, потым у Іркуцку, разважаў так: адной нагой я ў Сібіры, але другой усё ж у Беларусі. Нават не ўзнікала такога пытання, будуць для гэтага ўмовы ці нешта не складзецца. І вось я тут, дакладней – мы,* – усміхаецца ён. – *Быў даўнейшы план. Ну, і сямейныя абставіны прыспешылі: пагоршыўся стан здароўя маці, трэба быць бліжэй, не за 6 тысяч кіламетраў. А самае галоўнае – гэта мая радзіма, і я хачу тут жыць».*

Вёска Бяздзедавічы некалі была шматлюднай і складалася з двух «канцоў»: гістарычная частка вакол маёнтка паноў Корсакаў і новая, заснаваная з пачаткам калектывізацыі. Цяпер большасць дамоў у лепшым выпадку выкарыстоўваюцца як лецішчы, а то і проста стаяць занядбаныя.

*«Неяк сабраліся з хлопцамі і вырашылі палічыцца: колькі ж нас?* – згадвае падлеткавую пару Алег Рудакоў. – *43 толькі майго ўзросту! Гэта без старэйшых і малых, ну і без дзяўчат. Жыццё было вельмі насычанае: ганялі на мапедах і роварах, гулялі ў валейбол і хакей. Тое самае з жыўнасцю. У маё дзяцінства былі чатыры чарады кароў па 30–40 галоў у кожнай! А цяпер на ўсё наваколле – адна карова! Маладзі няма, старыя паміраюць. На жаль, шмат якія хаты пустуюць, або пакупнікі чужыя людзі пад лецішчы. Пастаянна жывуць літаральна адзінкі».*

### Апантаны задумай зрабіць музей-майстэрню і назваць «Сядзіба Рудаковых»

Апошнім часам без належнага догляду стаяў і дом Рудаковых. Бацькі не стала ў 2013-м; маці трымалася да апошняга, але цяпер адна не ўпраўляецца, і на зіму яе забіраюць унукі. Брат і сястра маюць жытло ў Полацку, хату выкарыстоўваюць больш як склад для рэчаў, якія шкада выкінуць, бо «могуць яшчэ спатрэбіцца». Ну і, безумоўна, карыстаюцца садам – тут яблыкі, дулі, іншая садавіна.

Дзеля справядлівасці, з прыездам новых гаспадароў «сховішча» стала яшчэ большым. Паўсоль у некалькі паверхаў запакаваны кардонныя скрынкі. Адных толькі кніг Алег прывёз больш за 5 тысяч (бадай, столькі ж пакінуў у Іркуцку), не кажучы пра рарытэты, здабытыя ў этнаграфічных экспедыцыях. Самы каштоўны – саламяная лялька, якую беларуская сям'я прывезла ў Сібір больш за 100 гадоў таму падчас аграрнай рэформы Сталыпіна. І вось праз векавое кола цацка вярнулася на радзіму.



Пасля навядзення парадку Алег Рудакоў збіраецца рэалізаваць амбітную задуму.

*«Так склалася, што ў хаце, дзе я нарадзіўся, няма гаспадара. Брат і сястра маюць кватэры, у іх свае сем'і, і наш дом застаўся без догляду. Я мару не проста яго адрамантаваць, а зрабіць гэткую музей-майстэрню і назваць, як варыянт, «Сядзіба Рудаковых». Ці, магчыма, адкрыць аграсядзібу. Вось цяпер вывучаем і знаходзім такія ўнікальныя экспанаты, што дух захоплівае. Тыя ж дзедавы збаны, чыгунная ступа драбіць крупы, куфар са скарбнічкамі. З радасцю вяртаюся на Бацькаўшчыну, думаю, нешта яшчэ ўчыню. Я ж яшчэ малады!»* – выпраменьвае ён аптымізм.

Уладанні сапраўды дазваляюць разгарнуцца – гектар зямлі з выхадам да лесу, вялікі сад і нават уласная сажалка. За гады закінутасці тэрыторыя прыкметна здзічэла; як вынік, панадзіліся аб'ядаць маладыя дрэвы зайцы, следам падцягнуліся казулі, а за імі лісы. Ну, і суседзі, якія павылоўлівалі з сажалкі рудакоўскіх карасёў. Цяпер гаспадар поўны рашучасці навакколле акультурыць.

Ёсць дзе прыкласці руку і ў шматлікіх катухах, якія туляцца на панадворку: вызваліць з-пад друзу ў гаражы старэнькі «Масквіч», музеефікаваць склапаны яшчэ бацькам трактарчык, прывесці да ладу студню і ганак. А яшчэ нават не пачалі абследаваць гумно і пуню!

Натуральна, выходзіць Алег і на гасцінец, каб аднавіць страчаныя сувязі з аднавяскоўцамі.

*«Наладжваю стасункі. Наведаўся да цудоўнага дзядзькі Сяргея Казлова, ён тата маіх сяброў Валеркі і Ваські. З імі яшчэ не бачыліся, але прывітанне перадаў. Абмяняліся нумарамі тэлефонаў, сказаў, што вярнуўся, будзе весялей. Сяргей Мікалаевіч засмяяўся: «Ну, з табой не засумуеш! Памятаю, як тут шабуршэў!» Мяне сапраўды ўспрымалі за лідара. У нас не было інтарэсу да выпіўкі: займаліся спортам, я капітаніў у валейбольнай камандзе, меў свае сетку і мяч, арганізоўваў міжвясковыя чэмпіянаты. Купіў касетны магнітафон. Іншым разам пойдзем на танцы, дык калі я ёсць, будзе і дыскатэка, бо з «апаратам». А не – дык і няма, сумуюць».*

### «Калі камуністы заганялі хутаран у калгас, дзед трымаўся да апошняга»

З роднымі Бяздзедавічамі ў Алега Рудакова непарыўна звязаны першыя 17 гадоў біяграфіі. Цяпер яму 52. Жылі вялікай і тады яшчэ дружнай сям'ёй – бацькі, старэйшы брат, малодшая сястра. Хата ўмоўна падзелена на «старую» і «новую». Першыя бярвёны паклаў дзед яшчэ ў 1930-я. Пазней бацька зрабіў прыбудову і веранду. Апошні пакойчык у 1980-м дапамагаў дабудоўваць Алег, спасцігаючы гэтак навуку цесляра.




*«Дзеда я не застаў, як і бабулю,* – расказвае ўнук. – *Адпачатку яны жылі на хутары, мелі вялікую гаспадарку. А як пачалася калектывізацыя, прыйшлі камуністы: давайце ў калгас. Дзед іх паслаў. Другі раз – тое самае. Нават калі трэці раз прыгразілі вывезці ў Сібір, не паддаўся і тады. Аднойчы ўсё ж прасачылі, як ён пайшоў у лес, сабралі брыгаду з набрыдзі – тыя раскідалі дах ды звезлі ў камуну. Урэшце давялося перасяляцца ў пасёлак, куды зганялі хутарскіх. Набыў зруб у суседнім Сенькаве, і вайну перажылі ўжо тут. Яго, дарэчы, не мабілізавалі, быў цяжка паранены ў Першую сусветную, цягнуў нагу».*

Заадно Алег Рудакоў пераказаў мясцовую легенду, чаму вёска мае такую незвычайную назву. Паводле тутэйшых паданняў, вакол маёнтка Корсакаў былі пабудовы для парабкаў, якія трымалі ў парадку палацык, жывёлу, пасевы. І пан стараўся, каб усе былі маладыя, здаровыя, працаздольныя. Як толькі работнік старэў, асабліва не цырымоніліся – разлічвалі і выстаўлялі. Вось адсюль і пайшло: няма дзядоў, адны маладыя. Адпаведна, Бяздзедавічы…

Калі Алег канчаў школу, адкрывалася шмат шляхоў. Настаўнік гісторыі раіў паступаць на гістфак Віцебскага педінстытута: маўляў, з такой уедлівасцю ў прадмет там самае месца. Шчыравалі фізрук на пару з трэнерам. Паколькі хлопец прафесійна займаўся валейболам, агітавалі, што факультэт фізічнага выхавання ў Брэсце дасць пуцёўку ў вялікі спорт. Калгасны аграном спакушаў новым трактарам і жыллём – яшчэ падлеткам Алег хадзіў памочнікам камбайнера, працаваў на зернетаку. І быў ваенрук, які не сумняваўся, што ягоны «курсант» мае талент да вайсковай справы.

У выніку перамог юнацкі максімалізм, кажа Рудакоў. Паступіў у вайсковае вучылішча інжынерных войскаў у Цюмені. Ад 1989-га цягам наступных 5 гадоў служыў афіцэрам, быў размеркаваны ў Іркуцк камандзірам узвода ракетнай часці. Калі пачаў развальвацца Саюз, падаў рапарт, каб перавесціся на радзіму. Адмовілі на той падставе, што ў Беларусі масавыя скарачэнні, выводзяць ракетныя войскі, сваіх няма куды падзець.

А ў Сібіры, наадварот, быў дэфіцыт кадраў. Так і зрабіўся беларус Рудакоў спачатку расійскім афіцэрам, а пасля і грамадзянінам Расійскай Федэрацыі.

### «Спасаліся на адсутнасць ныркі і звольнілі «па абмежаваным стане», без пенсіі»

У першай палове 1990-х пачаліся праблемы са здароўем, перастала працаваць адна нырка. Лекары пераконвалі, што яе не было ад нараджэння, і на гэтай падставе звольнілі праз «абмежаваны стан здароўя без права пенсіі». Потым, праўда, высветлілася, што нырка ўсё ж была, але за час службы чамусьці «сапсавалася».

Вярнуцца дадому не далі эканамічныя прычыны. Грошы трымаў у банку, а той «згарэў» разам з усімі назапашванямі. Давялося стварыць у Іркуцку сваю «малую Беларусь», паўжартам кажа Алег Рудакоў.

Атрымаў цывільную адукацыю, вучыўся адразу ў дзвюх іркуцкіх ВНУ. Скончыў эканамічны факультэт тэхнічнага ўніверсітэта і шэсць гадоў вучыўся на гістарычным факультэце дзяржаўнага ўніверсітэта. У гэты час захапіўся беларускай справай: шукаў у архівах звесткі пра добраахвотных і вымушаных перасяленцаў, наведваўся з этнаграфічнымі экспедыцыямі ў заснаваныя беларусамі вёскі Прыбайкалля, дакументаваў матэрыяльныя і культурныя скарбы, арганізоўваў святы ў аўтэнтычным стылі.

У 1996-м стварыў і наступныя 17 гадоў узначальваў Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага (ІТБК) – адну з самых актыўных у Расіі беларускіх суполак. У 2013-м добраахвотна перадаў кіраванне новаму актыву, спасылаючыся на тое, што нават «выбітнаму і вельмі разумнаму» доўга заседжвацца на пасадзе старшыні нельга, пачынаецца застой. А на наступны год і зусім выйшаў з ІТБК, бо колішнія аднадумцы жадалі ўжо весці справы па-свойму.

Каб не рабіць канфліктаў, Алег Рудакоў напісаў заяву. Следам за ім выйшаў амаль увесь склад маладзёжнага клуба «Крывічы» на чале з кіраўніцай Воляй Галанавай.

*«Як ні стараўся, расколу пазбегнуць не здолеў,* – дагэтуль перажывае ён. – *Сабраліся разам, паразважалі. Вырашылі працягнуць культурна-асветніцкую працу ў межах «Крывічоў» – на карысць яднання беларускай Іркуцкай вобласці. Хоць цяпер працаваць давялося ў канкурэнцыі з былымі паплечнікамі, якія засталіся ў ІТБК. Але зноў жа: была адна суполка, а стала дзве – і беларускіх спраў удвая паболела! Неўзабаве арганізацыя змяніла статус і стала «дарослай»: Іркуцкае гарадское грамадскае аб'яднанне «Беларускі клуб «Крывічы». Склаўся моцны актыў, пачалі працаваць на беларушчыну».*

### «Прашчуры адсюль з'ехалі, цяпер хоць праўнукі павінны пачаць вяртацца»

Кожны месяц «крывічане» арганізоўвалі старадаўнія беларускія святы, вандравалі па вёсках перасяленцаў, збіралі аўтэнтычны фальклор, праводзілі рэпетыцыі ансамбля песні і заняткі па танцах, кожную нядзелю ладзілі адкрытыя ўрокі беларускай мовы, запрашалі секцыі рамёстваў і г.д. Іншым разам іркуцяне дзівіліся: няўжо гэта ўсё на аматарскіх асновах, без аклада ды заробкаў?

Воля Галанава – адна з «рэкрутаваных» у беларускую справу. Менавіта Алег Рудакоў дапамог ёй усвядоміць сваю беларускасць, а з цягам часу дзяўчына раскапала і свае сапраўдныя карані. Кажа, што ад першага прыезду на гістарычную радзіму 10 гадоў таму ў рамках праграмы беларусаў замежжа на «Славянскім базары» займела запаветную мару – вярнуцца на зямлю продкаў. А цяпер яе ажыццявіла.

А як паставіліся да пераезду сямейнікі? Яе бацькі, два браты і сястра лічаць сябе расійцамі. Воліна захапленне беларускім радаводам доўгі час наогул не прымалі ўсур'ёз. Пакуль яна не паставіла ўсіх перад фактам.

*«Як, куды, навошта?* – рэакцыя была прыблізна такая, – успамінае Воля. – *Тлумачу ім: нашы прашчуры адсюль з'ехалі, цяпер хоць праўнукі павінны пачаць вяртацца. Дарэчы, да бешанковіцкай вёскі, адкуль маю прабабку Варвару звезлі 8-гадовай дзяўчынкай, крыху больш за 100 кіламетраў. Таму я на сваёй радзіме, мне тут вельмі камфортна… Натуральна, у бацькоў быў страх. Гэта ж не ў суседні горад з'ехаць – другі канец свету. Я не змагу наведваць іх у выхадныя, прыязджаць на сямейныя святы. З усведамленнем гэтага няпроста змірыцца. Але я дарослы чалавек, сама выбіраю, як далей будаваць сваё жыццё».*

Як псіхолаг Воля працягвае працаваць з кліентамі ў Расіі і за яе межамі дыстанцыйна – балазе сучасныя тэхналогіі дазваляюць гэта рабіць нават з беларускай вёскі. Не траціць яна сувязі і з сябрамі па «Крывічах» – бывае, нават даводзіцца спяваць проста ў манітор.

### «Як толькі адчуеш свае карані, яны абавязкова паклічуць вярнуцца на радзіму»

Ці падштурхнула ўзбуйненне сям'і да хутчэйшага вяртання? Магчыма, пры іншым раскладзе Алег Рудакоў і далей знаходзіў бы прычыны, каб адтэрмінаваць радыкальны крок, пра які марыў апошнія 30 гадоў.

*«Гэта здарылася б у любым выпадку,* – катэгарычны ён. – *Вельмі доўга з Воляй разам шчыравалі на карысць беларускай культуры, наша прыцягненне з кожным годам узмацнялася. Безумоўна, мы пажаніліся б. Але ўсё разам супала, і нейкія працэсы тым самым прыспешыліся. У Беларусь мяжа закрыта, Волю проста так не ўпусцілі б – дарэчы, і так не вельмі хацелі, бо не блізкая сваячка, ледзь заехалі. Давялося рыхтаваць паперы, што маці – інвалід І групы і ў кепскім стане. То бок гэта не спантаннае рашэнне, усё ішло да такой развязкі. Асабліва калі вырашылі, што разам будзе весялей».*

Зрэшты, яны былі не першымі іркуцкімі вяртанцамі. Яшчэ раней тут з'явіўся Рудакоў-малодшы. Пасля школы Аляксей, сын ад першага шлюбу, самастойна прыняў рашэнне пераехаць на бацькаву радзіму, паступіў у Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, быў адным з лепшых на курсе. Яшчэ студэнтам пачаў працаваць у сферы праграмавання, зарабляў сабе на жыццё, наймаў кватэру. Пачынаў у Віцебску, цяпер на высокіх пазіцыях у кампаніі ЕРАМ. Як кажа Алег, паколькі Лёша рэалізаваў мару пра Беларусь нават хутчэй за яго, гэта стала яшчэ большым стымулам да вяртання.

*«Кожны, хто некалі з'ехаў, мусіць вярнуцца на радзіму,* – перакананы ён. – *Калі адчуваеш свае карані, яны цябе абавязкова паклічуць. У нас такая вялікая тэрыторыя, а пражывае крыху за 9 мільёнаў, зусім мала. Вунь колькі месца: прыязджайце, жывіце! Трэба аднаўляць наш край разам… Так, на сабе ведаю, наколькі складана адважыцца на такі крок. Але ў нейкі час прыходзіць разуменне: далей вагацца немагчыма. Таму ўсё абрэзаў, нічога ў Іркуцку не засталося, акрамя сяброў і імя – дагэтуль запрашаюць на пасяджэнні ў адміністрацыю, на прынагодныя святы. Я ўжо ім пішу, што ўсё, не магу… І наогул у мяне яшчэ ноч».*

Дарэчы, да беларускіх начэй у Алега асаблівы піетэт. Кажа: знарок прачынаецца і выходзіць на вуліцу, каб атрымаць асалоду ад празрыстасці паветра і неба. Кажа, што ў Сібіры ночы чорныя, як сажа, а ў Бяздзедавічах можна любавацца ўласным ценем ад месяца.

Цяпер у Алега і Волі будзённыя клопаты, найперш звязаныя з легалізацыяй. Паколькі абое маюць расійскія пашпарты, для пачатку трэба атрымаць дазвол на часовае пражыванне ў Беларусі. Гэта вымагае ездзіць у Полацак і Мінск, перадольваць розныя бюракратычныя працэдуры. Калі гэты этап застанецца ў мінулым, можна будзе заняцца працаўладкаваннем і вяртаннем да культурнай актыўнасці.

Таксама Алег Рудакоў збіраецца шчыльней засяродзіцца на навукова-даследчыцкай дзейнасці, паказваючы новыя беларускія старонкі ў асваенні сібірскіх рэгіёнаў.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Хоць не ходзяць там трамваі, ды папера ўсё стрывае

Падчас суда над Дзмітрыем Дубковым "Мінсктранс" выставіў яму іск на 21,8 тысячы рублёў: маўляў, падчас пратэсту замінаў руху грамадскага транспарту, у тым ліку трамваям.

У "Мінсктрансе" фінансісты
Ледзь не ўпалі ў лёгкі транс.
А чаму? Намёк празрысты
Атрымаў-пачуў "Мінсктранс"
(Пэўна, ўсё ж ад пракурора):
– За начны ўчарашні бунт
Хай нацдэмы цяпнуць гора,
Хай спазнаюць ліха фунт.
І хоць з бучы той не бачу
Я для вас вялікіх страт,
Ды рыхтуйце справаздачу:
Страт, маўляў, задужа шмат!
Мы, вядома, іх на нары,
На Акрэсціна, пашлём,
Толькі мала гэткай кары,
Вы агрэйце іх рублём –
Хай працуюць без зарплаты…
Як загад гучаў намёк.
Скуль жа ўзяць такія страты?
Сталі ўсе напружваць клёк.
І ад штурму мазгавога
Атрымаўся добры плён:
Страт прыдумалася многа,
Хоць, на жаль, не на мільён.
Вось, напрыклад, злыдзень нейкі
(Ён, відаць, такі бугай!)
Паламаў-паквэцаў рэйкі,
І не мог хадзіць трамвай.
Справаздачу неўзабаве
Пракурору аддалі.
Быў працэс па гэтай справе.
Анямеў народ, калі
Пракурор назваў з імпэтам
Тыя страты ўсім на ўздзіў,
Бо трамвай у месцы гэтым
Проста зроду не хадзіў…

***

Як дурнота – цераз край
Ці разруха ў галаве,
Дык па Свіслачы трамвай
Пры патрэбе паплыве…

## Не прынялі б у піянеры за хуліганскія манеры

Жыхар Гродна спаліў 18 смеццевых бакаў. Свой учынак растлучамыў тым, што хацеў успомніць дзяцінства і піянерскія кастры.

Ён рос яшчэ ў СССР
І шанаваў часіны тыя.
Не ўздзіў, што нават і цяпер
Гучала слова "піянер"
Як словы "сімвал" і "святыня".
Часцей за ўсё з тае пары
Шчаслівілі ўспаміны-хвалі,
Як піянерскія кастры
Душу і цела сагравалі.
Забаў нямала ля кастроў –
Была фантазія багатай.
І ў мужыка бурліла кроў,
Калі прыгадваў зноў і зноў
Вабносці піянерважатай.
І кожны дзень па тых кастрах
Яго даймала настальгія.
Нарэшце ён адолеў страх,
І думкі грэшныя, благія
Запаланілі галаву,
Далі штуршок яго намерам:
"Той час нанова пражыву,
Як зноў пабуду піянерам!
Няхай жа полымя кастроў
Абудзіць наша пакаленне!"
Ды дзе ж набрацца столькі дроў?
У горадзе адно каменне…
І цюкнула ідэя ў скронь,
Што ёсць жа смеццевыя бакі.
Калі ахопіць іх агонь,
Падзівіцца любы і ўсякі.
І кожны, пэўна, будзе рад –
Кастры гарэцьмуць да дасвецця,
Бо бакаў тых навокал шмат,
А ў іх, на шчасце, многа смецця.
…Гараць, як некалі, кастры,
Святло ад іх увысь нясецца!
І птушкаю ў яго ўнутры
Ад шчасця трапятала сэрца.

***

Дух піянерскі час не сцёр,
І ў ідэалы тыя ж верыў,
Ды за такі пажар-касцёр
Яго пагналі б з піянераў…

РАДЗІМА

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

*Ты адбі мне тэлеграму,*
*Што у нашай старане*
*Ў ціхай вёсцы Белы Камень*
*Выпаў белы-белы снег.*

*Вёсак многа. Ёсць другія.*
*Ў вёсках нашы карані.*
*У мяне не настальгія –*
*Проста сум па чысціні,*
*Проста сум па белым полі,*
*Па рабінавым агні.*

*Проста хочацца да болю*
*Першароднай чысціні,*
*Той, што мроіцца начамі,*
*Што з душы здымае грэх...*

*Проста ў вёсцы Белы Камень*
*Самы белы ў свеце снег.*



ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# Как попасть на тренировки к чемпионке мира?

*Марина Арзамасова рассказала «Народной Воле» о вынужденном уходе из большого спорта и о своей школе бега.*

Как известно, в конце августа 2019 года Марина Арзамасова была дисквалифицирована на четыре года за нарушение антидопинговых правил.

*«Друзья, с сожалением сообщаю, что я вынуждена прервать свою профессиональную деятельность на долгое время,* – сообщила спортсменка. – *Я увольняюсь из армии, но радуюсь более чем 20 годам спорта, которые ничем не заменить.*

*Я уже живу с этим вердиктом несколько дней, но больше меня это не сломит. Я принимаю такой вариант развития событий. Смещаю свое внимание со своих тренировок на работу. За эти месяцы большое количество недовольных комментариев меня закалило, конечно. Но прошу вас: не казните слишком жестоко, мне сейчас и так очень непросто».*




– Почти полтора года проходило расследование по моему допинговому делу, но, к сожалению, решение было принято не в мою пользу, – рассказывает Марина. – Все мои доводы отвергли, а перед слушаниями было заявлено: мол, если я доказываю свою невиновность, то мне дадут 2 года дисквалификации, не докажу – 4 года.

Я уже тогда поняла, чем закончится это дело. Но, честно говоря, на эту тему сегодня вообще не хочется разговаривать, потому что она для меня болезненная до сих пор. Как говорят, рана еще кровоточит.

**– Когда было разбирательство, в то время вы уже искали для себя запасной аэродром? Понимали, чем будете заниматься, если отстранят от большого спорта?**

– Честно скажу: никаких вариантов не рассматривала, все планы были связаны только со спортом. Позже, когда стало известно о дисквалификации, я потеряла работу и находилась в достаточно печальном состоянии. Вот тогда и стала задавать себе вопросы: «Как дальше жить? Чем дальше заниматься?"

Нужно было на первое время найти для себя хотя бы какое-нибудь занятие, многие мне говорили: «Марина, ты всю жизнь занимаешься бегом. Тебя все знают, у тебя отличная подготовка. Ты можешь передавать свои знания другим».

И я попробовала делать то, что умею. Тогда мне еще не хватало моральных сил открыть какое-то свое дело, поэтому просто пошла работать фитнес-инструктором в одно государственное учреждение.

Начала работу практически с нуля, набрала себе группу для занятий, пошел небольшой эмоциональный подъем. Но затем получила зарплату за две недели, и она оказалось очень маленькой. Может быть, это и нормальные расценки для госучреждения, но меня они не устраивали. Я уволилась и решила открыть свою школу бега.

**– Зарегистрировались как индивидуальный предприниматель?**

– Да, официально зарегистрирована. Мне помогает муж, с его стороны всегда была поддержка.

Сейчас у нас уже занимается достаточно большое количество людей, но много новичков, которые требуют большего внимания. Нужно ведь всех подтянуть до какого-то определенного уровня, и муж этим как раз занимается. Естественно, для каждого человека подбираем индивидуальные нагрузки. Кто-то только начинает, а кто-то уже готовится к марафону.

**– Где проводите занятия?**

– В столичном легкоатлетическом манеже на Калиновского, сейчас будем проводить занятия и в учебном манеже Университета физкультуры.

**– Дорого тренироваться под руководством чемпионки мира?**

– Абонемент на восемь тренировок стоит 120 рублей. И это не какая-то заоблачная цена, а средняя по городу, если кто-то ходил, скажем, на занятия в бассейн или в тренажерный зал.

Хочу отметить, что проблем при формировании групп вообще не было. Люди интересуются, группы добавляются. Сейчас многие стараются поддерживать здоровый образ жизни.

**– Не думаете расширять свое дело?**

– Пока мы только начинаем, и я иду от простого к сложному. В идеале, конечно, хотелось бы иметь большой беговой клуб со своей базой, расширенным штатом специалистов.

Планы можно строить грандиозные, но я пока только в начале пути. Хотя, честно говоря, горжусь, что смогла выйти из трудного эмоционального состояния, в котором находилась, и начала заниматься любимым делом.

**Алесь СИВЫЙ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# «Клуб разбураецца пад корань…»

*Дырэктар ФК «Гарадзея» **Аляксандр МАРЧАНКА** распавёў «Народнай Волі», чаму яны спынілі існаванне і як прыйшлі да гэтага.*

У мінулым сезоне "Гарадзея" ў чэмпіянаце Беларусі фінішавала ў вышэйшай лізе на 13-м месцы. З фінансаваннем былі праблемы і раней, але да заканчэння першынства дацягнулі.

Як аказалася, на гэтым усё і скончылася. Хаця кіраўніцтва клуба, відаць, да апошняга цешыла сябе нейкай надзеяй, бо з'явілася такое паведамленне: *"З-за таго, што ў СМІ з'яўляецца інфармацыя аб звальненні работнікаў футбольнага клуба "Гарадзея", лічым неабходным удакладніць: у сувязі з тым, што Гарадзейскі цукровы камбінат выходзіць са складу заснавальнікаў ФК "Гарадзея", клуб вядзе перамовы аб змене заснавальніка. Лістоў з боку цукровага камбіната аб звальненні работнікаў, як раней пісалі ў СМІ, не паступала – гаворка ішла аб прыпыненні падаўжэння кантрактаў з асобамі, у якіх завершаны тэрмін дзеяння працоўных пагадненняў. Аб далейшых кроках па рэарганізацыі клуба мы будзем паведамляць дадаткова".*

Кіраўнік Беларускай федэрацыі футбола **Уладзімір Базанаў** таксама выказаўся пра гэтую сітуацыю: *"Усе клубы спансіруюцца мясцовымі органамі ўлады. Колькі яны змогуць ўтрымліваць? Я не ведаю. Змогуць ўтрымліваць "Гарадзею" – значыць, змогуць. Не змогуць – значыць, яны адмовяцца ад гэтага. Пакуль афіцыйнай адмовы ад "Гарадзеі" мы не атрымалі. Але не страшна, нават калі ў чэмпіянаце будзе не 16, а 15 каманд".*

– На сённяшні дзень сітуацыя такая, што ў нас практычна ўсе звольнены, – кажа дырэктар ФК "Гарадзея" **Аляксандр МАРЧАНКА**. – Застаўся я на пасадзе дырэктара і галоўны бухгалтар, мы рыхтуем дакументы для ліквідацыі клуба. Далей перададзім паўнамоцтвы ліквідацыйнай камісіі і таксама звольнімся.

**– Але ж была інфармацыя, што клуб вядзе перамовы аб змене заснавальніка…**

– У гэтым накірунку ішла пэўная праца, але не атрымалася. У мінулым годзе таксама была досыць складаная фінансавая сітуацыя, хаця выкараскаліся. Зараз нам сказалі, што ў цукровага камбіната няма сродкаў, каб утрымліваць "Гарадзею".

**– Былі перадумовы для такога развіцця падзей?**

– Тое, што цукровы камбінат выйдзе са складу заснавальнікаў, было вядома яшчэ ў мінулым годзе. Быў варыянт, што зменіцца заснавальнік клуба і новым стане райвыканкам, для таго каб захаваць дзіцячую спартыўную школу з мінімальнай базай. Але райвыканкам таксама адмовіўся.



**– Што будзе з дзіцячай футбольнай школай?**

– Там працавалі дзевяць трэнераў, на мінулым тыдні ўсе яны былі таксама звольнены, і, наколькі мне вядома, з іх працаўладкаваліся пакуль толькі два чалавекі. А футбольная школа расфарміравана.

**– Футбалісты "Гарадзеі" разбегліся па іншых клубах?**

– Хтосьці – так, але некаторыя да гэтага часу шукаюць працу. А вось трэнеры пакуль не запатрабаваны.

**– З усімі разлічыліся?**

– На сённяшні дзень перад крэдыторамі, ігракамі, трэнерамі і іншымі работнікамі ніякіх запазычанасцяў няма.

**– Сумная сітуацыя з клубам атрымалася…**

– Для мяне яна і сумная, і нават трагічная, бо не здолелі захаваць мінімальную структуру клуба – ДЮСШ. Можа быць, надышлі б лепшыя часы, знайшліся б фінансы, і каманда магла б заявіцца хаця б у другую лігу. А так разбураецца ўсё пад корань.

**– Пасля выбараў некаторыя футбалісты "Гарадзеі" выказалі сваю грамадзянскую пазіцыю, а, напрыклад, нападаючы каманды Расціслаў Шавель два разы быў на "сутках" за ўдзел у мірных акцыях пратэсту. Можа быць, за гэта вырашылі пакараць каманду?**

– Не думаю. Яшчэ да гэтых падзей было вядома, што канцэрн "Белдзяржхарчпрам", у які ўваходзіць і Гарадзейскі цукровы камбінат, пазбаўляецца няпрофільных актываў, якім і з'яўляецца клуб. Вось і пазбавіліся.

**– На ваш погляд, ці магчыма адраджэнне "Гарадзеі"?**

– Калі б захавалася ДЮСШ, то яшчэ была б нейкая надзея. Таму нават калі з'явіцца чалавек, які захоча развіваць футбол у раёне, то ўсё давядзецца пачынаць з нуля.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).